# КРЫВІНКА

ЖНІВЕНЬ
№12 (293)
2022 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




КУЛЬТУРА

## "НАРЫСЫ БЕШАНКОВІЦКАГА КРАЮ"

**Выйшла ў свет навукова-папулярная кніга «Нарысы Бешанковіцкага краю».**

Выпуск выдання прымеркаваны да 575-гадовага юбілею Бешанковіч. Над яе стварэннем працавала вялікая колькасць аўтараў: Анатоль Крачкоўскі, Максім Чарняўскі, Станіслаў Леаненка, Аляксандр Вашанаў, Міхась Чарняўскі і Марына Бірукова.

Старшыня райвыканкама Галіна Унуковіч адзначыла, што "Нарысы" — гэта першая спроба перадаць унікальнасць непаўторнасць прыдзвінскага краю, падзяліцца яго духоўнымі, культурнымі і працоўнымі багаццямі з землякамі.

Нам дадзена ўнікальная магчымасць увасобіць у жыццё больш маштабныя праекты па навядзенні парадку на зямлі і добраўпарадкаванні, развіцці інфраструктуры, у выніку — зрабіць наш родны край больш прыгожым і камфортным для жыцця», — падкрэсліла кіраўнік раёна. Усім, дзякуючы каму «Нарысы Бешанковіцкага краю» выйшлі ў свет, Галіна Уладзіміраўна выказала шчырыя словы падзякі.

Дырэктар раённага гісторыка-краязнаўчага музея Марына Бірукова адзначыла, што "асновай кнігі сталі багатыя матэрыялы вядомых бешанковіцкіх краязнаўцаў — Станіслава Леаненкі і Анатоля Крачкоўскага. Для падрыхтоўкі раздзела «Старажытнасць» давялося звярнуцца да супрацоўнікаў Нацыянальнага інстытута гісторыі Рэспублікі Беларусь Максіма Чарняўскага і Аляксандра Вашанава. Вопытныя археолагі дапамаглі не толькі з тэкстам, але і з фотаздымкамі знаходак Крывінскага тарфяніка. Падрыхтоўка апошніх раздзелаў, якія адлюстроўваюць сучаснае жыццё нашага рэгіёна, аб'яднала шмат людзей з розных працоўных калектываў, дзякуючы чаму атрымаліся цікавыя і насычаныя летапісы прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый раёна».

Кніга «Нарысы Бешанковіцкага краю» багатая фотаматэрыяламі. Іх прадаставілі раённы гісторыка-краязнаўчы музей, раённая газета «Зара», фатографы-прафесіяналы і аматары — Леанід Акулёнак, Яўген Шклярэўскі, Вікторыя Даўгалёва, Раман Кярэмша, Алёна Салаўёва, Алена Страдубцава, Васіль Аўчыннікаў, сям'я Чарняўскіх.

Кніга мае наступныя раздзелы і падраздзелы: «Геаграфія краю», «Рэльеф», «Геалагічная будова і карысныя выкапні», «Клімат і прыродныя ўмовы», «Раслінны і жывёльны свет», «Старажытнасць», «Крывінская Атлантыда», «Ваеннае ліхалецце», «Нашы святыні», «Славутыя людзі Прыдзвіння» і іншыя.

**А.Тутэйшы**



ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## ПАДЗЕННЕ НАДОЯЎ У БЕШАНКОВІЦКІМ РАЁНЕ

**Па выніках працы ў жывёлагадоўлі за студзень-чэрвень 2022 года Бешанковіцкі раён з 80-й пазіцыі ў рэспубліканскай табліцы апусціўся на 83-ю.**

Паводле інфармацыі Мінсельгасхарча, па выніках работы ў жывёлагадоўлі за студзень-чэрвень 2022 года вытворчасць малака ў сельгаспрадпрыемствах краіны перавысіла 3,8 млн. тон (100,1 працэнта да ўзроўню мінулага года), сярэдні надой малака ад каровы склаў 2745 кг.

Паводле слоў начальніка галоўнага ўпраўлення інтэнсіфікацыі жывёлагадоўлі Мінсельгасхарча Наталлі Соніч, за апошнія сем гадоў сярэдні надой малака ад каровы па краіне вырас на 873 кг і ў 2021 годзе склаў 5412 кг.

Па выніках мінулага года ў тройцы лідэраў сярод рэгіёнаў аказаліся Брэсцкая, Гродзенская, Мінская вобласці - надаілі больш за 6 тысяч кг на карову. Па выніках першага паўгоддзя 2022-га Брэстчына па-ранейшаму на першым месцы: сярэдні надой склаў 3388 кг. На Гродзеншчыне і Міншчыне - таксама звыш трох тысяч, а Віцебшчына ў рэйтынгу па прадукцыйнасці дойнага статка зноў першая з канца - да дзвюх тысяч не хапіла 73 кг.

УГродзенскім,Нясвіжскім,Смалявіцкім, Дзяржынскім, Бераставіцкім, Іванаўскім, Мазырскім і Брэсцкім раёнах па выніках першага паўгоддзя ў сярэднім ад каровы атрымалі звыш чатырох тысяч кілаграмаў малака, у Шумілінскім і Чавускім раёнах - не больш за тысячу.

Свой уласны рэкорд, ды і рэкорд краіны, на гэты раз паставіў Слонімскі раён, дадаўшы да леташняга паказчыка 378 кг(!), такім чынам сярэдні надой малака тут дасягнуў 2719 кг. Дзякуючы гэтаму ў рэйтынгу раён узняўся да 50-й пазіцыі.

Яшчэ ў некалькіх раёнах сярэдні надой ад каровы ў першым паўгоддзі вырас больш як на 200 кілаграмаў да аналагічнага перыяду 2021-га.

У цэлым многія раёны сёлета памянялі свае пазіцыі ў рэспубліканскай табліцы. Напрыклад, Карэліцкі па выніках першага квартала быў на 24-й пазіцыі, зараз на 27-й, Лагойскі з 25-й зрушыўся на 23-ю,

Пастаўскі з 79-й узняўся ажно на 72-ю, а Бешанковіцкі з 80 апусціўся на 83 -ю.

Па вытворчасці малака многія раёны да ўзроўню аналагічнага леташняга перыяду спрацавалі з плюсам. Напрыклад, Жыткавіцкі і Аршанскі выйшлі на 115,4%, атрымаўшы 31,3 і 40,7 тысячы тон адпаведна.

**А.Тутэйшы**
**па матэрыялах СБ**

ЗДАРЭННЕ

## ЗДОХЛА ЖЫВЁЛА СЕЛЬГАСПРАДПРЫЕМСТВА

**За нястачу 55 галоў БРЖ з вінаватых службовых асоб на карысць сельгаспрадпрыемства спагнана больш за 11 000 рублёў, дае інфармацыю пракурор Бешанковіцкага раёна Андрэй Старчанка.**

Пракуратурай раёна было ўстаноўлена, што ў перыяд са студзеня па красавік мінулага года на адным з сельгаспрадпрыемстваў раёна адбылася дохлая буйной рагатай жывёлы.

Разам з тым, службовымі асобамі прадпрыемства якія-небудзь дакументы на дохлю не складаліся, у справаздачы аб руху жывёлы і птушкі звесткі не ўносіліся.

Такім чынам, брыгадзіры вытворчых брыгад, галоўны заатэхнік, а таксама галоўны ветэрынарны лекар схавалі сам факт дохлі, чым парушылі службовыя абавязкі па вядзенні дакументацыі, уліку і ўсталяванай справаздачнасці па жывёлагадоўлі, беражлівых адносін да маёмасці наймальніка.

З улікам таго, што адпаведныя дакументы не складаліся, сапраўдную прычыну дохлі высветліць не ўдалося.

Трупы жывёл утылізаваны без складання дакументацыі.

Даведачна: згодна з п.5 арт.404 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь работнікі нясуць матэрыяльную адказнасць у поўным памеры ўрону, прычыненага па іх віне наймальніку, у выпадках, калі ўрон прычынены нястачай.

Рашэннем суда пазовавыя патрабаванні пракурора раёна задаволены, з вінаватых службовых асоб на карысць сельгаспрадпрыемства спагнана больш за 11 000 рублёў.

Рашэнне суда ў законную сілу не ўступіла, можа быць абскарджана і апратэставана.

**А.Тутэйшы**

## ДУБ

(працяг)

*Тая мая бабуля Гапуля (па кудзелі),*
*ня ведала наогул расейскай мовы,*
*была непісьменнай,*
*але ейная памяць*
*да самой старасьці*
*захавала сотні*
*беларускіх песень,*
*казак, замоваў,*
*што, на мой вялікі жаль,*
*так і пайшлі зь ёю разам*
*у нябесную Беларусь,*
*ня стаўшы набыткам*
*маёй памяці.*

*На новай зямлі*
*першыя гады жыцьця*
*бабчын бэз*
*аберагаў свайго суседа*
*ад розных неспадзяванак.*
*А найперш ад мяне самога,*
*каб я выпадкова яго не скасіў*
*або не стаптаў,*
*шчыруючы на падворку.*

*Гады ж праз тры ці чатыры*
*дуб іргануўся ўгару.*
*Мусіць,*
*яму конча карцела даведацца,*
*што там ёсьць*
*на другім баку хаты.*

*Бо сёньня ён*
*з прагнай цікаўнасьцю*
*выглядае з-за вільчака*
*і сочыць за пчальніком,*
*дзе жывуць нейкія*
*дзівосныя істоты,*
*што ў сонечнае надвор'е*
*прылятаюць да яго*
*па травеньскі пылок;*

*усьміхаецца рэчцы Крывінцы,*
*што пакручаста пераліваецца*
*пад сонцам*
*за нейкія трыста метраў*
*на поўдзень;*
*прыветна ківае гольлем*
*мясцовым дубам,*
*якія ганарыста ўзвышаюцца*
*на другім беразе ракі,*
*падпіраючы небасьхіл*
*магутнымі плечукамі.*

*Часам*
*ён задуменна пазірае*
*ў бясконцы простор*
*і, здаецца, думае пра штосьці*
*сваё.*

**Г.Станкевіч**

*(працяг у наступным нумары)*

ВУЧЭННІ

# ТРОХДЗЁННЫЯ ВУЧЭННІ ДСНС

**З мэтай праверкі гатоўнасці сіл і сродкаў Бешанковіцкага раённага звяна тэрытарыяльнай падсістэмы ДСНС па абароне тэрыторыі раёна або ўзнікненні НС рознага характару ў раёне з 24-га жніўня праходзяць трохдзённыя комплексныя вучэнні.**

У гэты час запланаваны адпрацоўкі шэрагу практычных і тэарэтычных умоўных надзвычайных сітуацый на розных аб'ектах нашага рэгіёну.

У першай палове першага дня адпрацоўваліся тэарэтычныя ўступныя задачы, на якіх разглядаліся пытанні стану гатоўнасці раёна да ліквідацыі рознага віду надзвычайных сітуацый, здольнасці забеспячэння насельніцтва бяспечнымі ўмовамі знаходжання ў выпадку НС і паўсядзённай дзейнасці.

У другой палове дня праводзілася практычная адпрацоўка дзеянняў падчас НС.

Па адной з умоўных сітуацый адбыўся лясны пажар у раёне вёскі Сокарава, які не ўдалося ліквідаваць у заспетых памерах з-за ўзмацнелага ветру, і ён працягвае развівацца. З-за падзення дрэў на лініі электраперадач, якія праходзяць праз лясныя масівы, адбыліся шматлікія абрывы правадоў і разбурэнні апор, парушана электразабеспячэнне. Аварыйна-аднаўленчыя брыгады Бешанковіцкіх электрычных сетак не могуць пачаць аднаўленчыя работы з-за ляснога пажару. Ускладнёны рух на аўтамабільных дарогах агульнага карыстання. Ёсць пацярпелыя і зніклыя без вестак грамадзяне.

Згодна з умоўнай сітуацыяй №2 паблізу вёскі Хмельнік, у выніку неасцярожнага абыходжання з агнём неўсталяванай асобы, склалася пагроза распаўсюджвання агню на лясны масіў. Па трэцяй тактычнай задуме ў выніку неспрыяльных умоў надвор'я адбылося адключэнне ад электразабеспячэння малочнатаварных ферм, размешчаных у в.Комаскі, якія адносяцца да аб'ектаў, адключэнне якіх ад электразабеспячэння на працяглы тэрмін недапушчальна. У гэты час ад работнікаў УАЗ «Бешанковіцкая цэнтральная раённая бальніца» паступіла інфармацыя, што ва ўстанову аховы здароўя з в.Камоскі звярнуўся жыхар з прыкметамі асабліва небяспечнай інфекцыі «Сібірская язва».

Раённыя службы своечасова даводзяць да насельніцтва інфармацыю з дапамогай мясцовых сродкаў масавых інфармацый, а таксама інтэрнэт-рэсурсаў і месэнджараў.

Для вырашэння пастаўленых задач працуе сітуацыйны штаб упраўлення ліквідацыі надзвычайных сітуацый, прыцягваюцца работнікі і аварыйна-выратавальная і спецыяльная тэхніка прадпрыемстваў і арганізацый раёна.

**А.Тутэйшы**
**паводле сайта МНС**

COVID-19

# КАРАНАВІРУС ВЯРТАЕЦЦА

**Міністр аховы здароўя Беларусі Зміцер Піневіч сказаў: «Чарговага ўздыму захворвання варта чакаць у верасні: калі большасць беларусаў вернуцца за студэнцкую лаву, на працоўныя месцы, а пенсіянеры прыедуць з лецішчаў. Гэта значыць, умоў для гэтага захворвання будзе больш».**

Пры гэтым чыноўнік заклікае не панікаваць: з вялікай доляй верагоднасці асноўная частка захворвання давядзецца на амікрон-штам. Ён пераносіцца значна лягчэй. «Тым не менш рэкамендую тым, хто яшчэ не прышчапіўся, зрабіць гэта, - кажа міністр. - Пачынаючы з сярэдзіны жніўня мы плануем нарасціць тэмпы бустэрнай вакцынацыі. Мяркую, з тымі паказчыкамі вакцынацыі, якіх мы дасягнулі да гэтага часу, ніякіх катастрафічных наступстваў не чакаем. Штама, падобнага да дэльты, таксама не чакаем. Сістэма аховы здароўя да ўздыму захворвання цалкам гатовая».

Піневіч заклікае не ігнараваць меры прафілактыкі, накіраваныя на стрымліванне захворвання - за час з пачатку пандэміі, мабыць, кожны беларус вывучыў словы: дыстанцыяванне і вакцынацыя. Што да выбару вакцын, то ўсе зарэгістраваныя ў Беларусі прэпараты даказалі сваю эфектыўнасць. «Нават калі была самая цяжкая хваля, я не аднойчы звяртаў увагу, што тыя, хто вакцынаваны, у рэанімацыю, як правіла, увогуле не траплялі. Нядаўна мы зарэгістравалі кубінскую вакцыну. У будучыні плануем яе выкарыстоўваць для дзяцей. Хоць тая ж кітайская вакцына эфектыўная для дзяцей з 5 гадоў», - цытуе Афіцыйнае Міністэрства аховы здароўя міністра.

**nv-online.info**

ГІСТОРЫЯ

# УСЁ ПРА АРХЕАЛОГІЮ

**Распавядае дырэктар Інстытута гісторыі НАН Вадзім Лакіза.**

***— Вадзім Леанідавіч, археалогія ў сучасным свеце - што яна значыць для грамадства?***

— Археалагічныя даследаванні дазваляюць раскрыць асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры, пахавальных абрадаў, домабудаўніцтва ў тыя далёкія часы, пра якія не захавалася дакументальных крыніц. А калі казаць пра эпоху Сярэднявечча і пазней, у звязку з пісьмовымі крыніцамі археалогія дае проста ўнікальныя магчымасці для разумення, як жылі нашы продкі, дазваляе дапоўніць уяўленні пра канкрэтныя гістарычныя падзеі. Напрыклад, апісваецца сядзіба, замак, палацава-паркавы комплекс, карчма, а археалагічныя даследаванні дапамагаюць уявіць усё больш ясна, знайсці адсутныя звёны.

***— Як становяцца археолагамі? Якія навыкі патрабуюцца для гэтай працы?***

— Археолаг - няпростая прафесія. Пастаянная праца з зямлёй, жыццё ў намётах, холад і спякота, дажджы, мазалі ад працы. Таму ў гэтую прафесію прыходзяць тыя, у каго вялікая цяга да нязведанага. Гэта парыў душы. Важна цярпенне, стараннасць, уменне маляваць, фатаграфаваць, аналізаваць, сістэматызаваць і не баяцца прапанаваць ідэі.

Яшчэ ў школе будучыя археолагі займаюцца навукова-даследчай, пошукавай дзейнасцю, удзельнічаюць спачатку ў турыстычных паходах, потым у археалагічных лагерах. Мы сумесна з райвыканкамамі арганізуем лагеры "Юны археолаг" у многіх раёнах Беларусі - Дзятлаўскім, Слонімскім, Ашмянскім, Лепельскім, Старадарожскім, Асіповіцкім і іншых. Пасля частка гэтых дзяцей паступае на гістарычныя факультэты, дзе ёсць археалагічныя практыкі, магчымасць удзелу ў даследаваннях, валанцёрскі рух. Далей магістратура, аспірантура.

***— Раскажыце падрабязней - чаго чакаць беларусам?***

— Плануем шырокамаштабныя археалагічныя даследаванні ў ключавых месцах Беларусі. Сёння мае вялікую цікавасць і можа быць нацыянальным праектам гарадзішча на рацэ Менка ў Мінскім раёне. Гэта месца першапачатковага заснавання Мінска. Трэба праводзіць пастаянныя і мэтанакіраваныя археалагічныя даследаванні. Неабходна добраўпарадкаваць тэрыторыю, аднавіць драўляныя абарончыя збудаванні, жылыя і гаспадарчыя пабудовы X-XI стагоддзяў, прывесці ў належны выгляд унікальную старажытную раку Менка, у якую ўпадае Дунай.

Пазней старажытны Мінск быў перанесены на раку Свіслач. І гэта можа быць другім маштабным праектам пад эгідай дзяржавы. У гэтага месца ў цэнтры нашай сталіцы побач са станцыяй метро "Няміга" вялікі патэнцыял для прыцягнення турыстаў з Беларусі і з усяго свету.

Яшчэ адзін найцікавы аб'ект - месца пераправы войска Напалеона праз Бярэзіну падчас адступлення ў 1812 годзе. Але вельмі няпросты ў вывучэнні, які патрабуе нестандартных падыходаў і міжнароднай кааперацыі. Мы праводзілі даследаванні, але з-за пандэміі і пэўных санкцыйных момантаў крыху прыпынілі іх.

Перспектыўным у цэлым з'яўляецца развіццё турыстычнага патэнцыялу Браслаўскага Паазер'я на Віцебшчыне. Для нас знакава, што там ёсць некалькі комплексаў, якія патрабуюць мэтанакіраваных археалагічных даследаванняў - і яны таксама могуць стаць у нейкай ступені нацыянальнымі праектамі. Гэта ўнікальнае гарадзішча Масковічы, сам Браслаў і яго акругі.

Вельмі цікавыя першабытныя археалагічныя помнікі, на якіх мы штогод праводзім даследаванні - паселішчы Асавец і Крывіна ў Бешанковіцкім і Сенненскім раёнах (археолаг Максім Чарняўскі). Гэта ўнікальныя і шырока вядомыя ў свеце паселішчы неаліту і бронзавага веку, на якіх пад пластом торфу захаваліся артэфакты з арганікі, дзіўныя прадметы матэрыяльнай і духоўнай культуры з косткі, рогі, дрэва. Такія тарфянікавыя, ці "мокрыя", стаянкі вельмі каштоўныя для археолагаў.

У гэтым годзе Максім Чарняўскі праводзіў раскопкі ў Лепельскім раёне на селішчы Берашча. Там быў знойдзены фрагмент керамікі з малюнкам рыбы ўзростам 5 тыс. гадоў. А праз некалькі дзён - яшчэ адзін фрагмент пасудзіны, але ўжо са старажытным малюнкам рыбака з вудай.

***— У якіх кропках Беларусі зараз працуюць археолагі?***

— НАН Беларусі - орган-рэгулятар, які выдае дазволы на правядзенне археалагічных даследаванняў, а Інстытут гісторыі рыхтуе праекты для прыняцця такіх рашэнняў. Больш за 120 дазволаў ужо выдадзена даследчыкам з усіх рэгіёнаў нашай краіны - не толькі супрацоўнікам Інстытута гісторыі, але і археолагам з ВНУ і музеяў. Прычым на розныя помнікі археалогіі - ад каменнага веку да Сярэднявечча і Новага часу, у тым ліку ў зонах новабудоўляў.

Палявыя работы на Верхнім замку ўжо завяршыліся, а наперадзе складаны працэс камеральнай апрацоўкі і інтэрпрэтацый (археолаг Марат Клімаў).

Найцікавыя даследаванні вядуцца на археалагічным комплексе на рацэ Менка: на гарадзішчы і селішчы. Навукоўцы спрабуюць разабрацца з абарончымі канструкцыямі гарадзішча, асаблівасцямі фармавання культурных напластаванняў і забудовы. Знойдзены ўнікальныя прадметы, сляды ювелірнай майстэрні. Пару дзён таму Андрэй Вайцяховіч з камандай валанцёраў выявіў проста ўнікальны, пакуль першы і адзіны ў краіне фрагмент посуду - плоскае дно, на якім захаваўся асабісты радавы знак князя Ізяслава, сына Уладзіміра і Рагнеды.

Цяпер праводзяцца даследаванні ўнікальнага мезалітычнага помніка ў Любані (археолаг Аляксандр Вашанаў). Там захаваліся арганічныя артэфакты. Калісьці на гэтым месцы планавалася будаўніцтва пажарнага дэпо, але з нейкіх прычынаў будоўлю адмянілі. Гэта найкаштоўнейшы археала-гічны аб'ект для навукі.

Акрамя таго, у Драгічынскім раёне даследаванні праводзяцца на неалітычным селішчы Якарыца, дзе таксама захоўваюцца арганічныя артэфакты (археолаг Мікалай Крывальцэвіч). Вельмі цікавая інфармацыя паступае ад нашых археолагаў са Жлобінскага раёна, дзе даследуецца новая стаянка эпохі мезаліту і неаліту Чырвоная Горка (там працуе Алег Вараненка) і Ашмянскага раёна, дзе на сярэднявечным селішчы Гальшаны знойдзены рэдкія прадметы перыяду вялікага перасялення народаў, а таксама XI-X. (Павел Кенька).

Важны ўклад уносяць і нашы калегі з ВНУ. Напрыклад, прадстаўнікі Магілёўскага дзяржуніверсітэта праводзілі раскопкі курганнага могіль-ніка ў Круглянскім раёне Магілёўскай вобласці (археолаг Аляксей Аўласовіч). Тацццяна Бубенька з Віцебскага дзярж-універсітэта са студэнтамі праводзіла даследаванні га-радзішча жалезнага веку. Раскопкамі займалася і экспедыцыя гістфакаў БДУ (пад кіраўніцтвам Паліны Курловіч), і ГрДУ (археолаг Аляксандр Гаршкоў). Як бачым, праца вядзецца вялікая. Але ўсё роўна такіх даследаванняў у краіне павінна быць значна больш, патрэбнасць у іх высокая.

***— Прывядзіце, калі ласка, прыклады тых выпадкаў, калі археалагічныя знаходкі мянялі ўяўленні аб нашай гісторыі, наадварот, дапамагалі змагацца са спробамі яе перапісаць.***

— Самы яркі прыклад датычыцца першапачатковага засялення тэрыторыі Беларусі. Калі мы раней думалі, што гэта адбылося 100 тыс. гадоў таму, то знойдзеныя артэфакты паказалі, што гэта адбылося значна раней - каля 300 тысячагоддзяў таму. Змяняюцца і нашы ўяўленні аб засяленні асобных рэгіёнаў. Так, у выніку археалагічных даследаванняў на тэрыторыі будаўніцтва маста праз Нёман каля Гродна знайшлі артэфакты, якія паказалі, што на гэтым месцы чалавек пачаў жыць прыблізна 100 тыс. гадоў таму. А мы думалі да гэтага, што ў раёне 10-12 тыс. год таму.

***— Раскажыце аб планах археолагаў на бліжэйшую будучыню.***

— Па-першае, гэта праца над археалагічнай картай Беларусі. Яна таксама можа і мусіць стаць буйным нацыянальным праектам. Нам трэба думаць, як яго ўвасабіць, шукаць сілы, гэта вельмі няпроста. Патрэбна дакладная лакалізацыя помнікаў археалогіі розных гістарычных перыядаў, унясенне іх у геаінфармацыйную сістэму з дакладнымі каардынатамі, апісаннем і з далейшай абаронай. Археалагічная карта патрабуе часу, метадалагічнага, заканадаўчага падыходу. Гэта пытанне, над якім мы працуем, думаем, як ажыццявіць на практыцы.

Акрамя таго, у апошнія гады востра стаіць пытанне барацьбы з чорнымі капальнікамі. Ізноў мы бачым актывізацыю іх працы. Яны арганізуюцца ў групы, руйнуюць археалагічныя помнікі, здабываюць металічныя артэфакты з рознай глыбіні, прадаюць, хаця гэта забаронена.

*(скарочана)*

**Валерыя Гаўрылава**
**БЕЛТА**

АДРАДЖЭННЕ

# 25 ЖНІЎНЯ 1991 ГОДА БЕЛАРУСЬ СТАЛА НЕЗАЛЕЖНАЙ

**31 год таму Дэкларацыя аб суверэнітэце БССР набыла фактычна статус канстытуцыі, і гэта азначала абвяшчэнне Беларуссю незалежнасці. Коратка тлумачым, што стала прычынаю і як гэта адбывалася.**



**Гарбачоў і «Перабудова»**

З прыходам да улады ў Савецкім саюзе Міхаіла Гарбачова, распачаліся працэсы дэмакратызацыі, пад назвай «перабудова», пачатыя ў канцы 1980-х гадоў. «Перабудовай» называлі агульны шэраг рэформаў і новай ідэалогіі савецкага партыйнага кіраўніцтва ў эканамічнай і палітычнай структуры СССР. Гэтая ідэалагічная лінія партыі ў выніку прывяла да «параду незалежнасці» ўсіх савецкіх рэспублік з пачатку 1990 года.

27 ліпеня 1990 года Вярхоўным Саветам БССР была прынятая Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. У адпаведнасці з ёй, прызнавалася вяршэнства Канстытуцыі БССР і яе законаў.

Напрыканцы лета 1991 года, з 18 па 21 жніўня, пачаўся путч у Маскве. Пераварот разгортваўся як спроба сябраў ГКЧП прадухіліць намечанае на 20 жніўня падпісанне дэлегацыямі РСФСР, Казахстана і Узбекістана саюзнай дамовы, якая б падвяла гістарычны знаменальнік пад СССР. Пераварот прывёў да канчатковай дыскрэдытацыі саюзных органаў улады і Камуністычнай партыі, не быў падтрыманы значнай колькасцю насельніцтва, у выніку праваліўся.

**Беларускія камуністы хацелі адмаўчацца**

Кіраўніцтва рэспублікі і ЦК Камуністычнай партыі Беларусі не выступілі з асуджэннем перавароту, заняўшы пазіцыі назіральнікаў. На сустрэчы з дэпутатамі — сябрамі парламенцкай апазіцыі — старшыня ВС БССР Мікалай Дземянцей у адказ на просьбу растлумачыць факт адхілення Гарбачова паведаміў, што ўсё было зроблена згодна закону.

У адказ на гэта кіраўнікі Беларускага Народнага Фронту, Мінскі гарсавет, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Мінскі стачкам і шэраг іншых арганізацый прынялі пастанову, у якой назвалі падзеі 19 жніўня «антыканстытуцыйным захопам улады хунтай» і падтрымалі заклік Барыса Ельцына пачаць бестэрміновы страйк, пасля чаго пачаліся вострыя абмеркаванні прыняцця краінай незалежнасці.

24 жніўня актыў БНФ вывеў на плошчу Леніна дзясяткі тысяч чалавек, а ў залу, дзе праходзілі паседжанні Вярхоўнага Савета, былі унесены бел-чырвона-белы сцяг.

Тады ж старшыня ВС БССР Мікалай Дземянцей падаў у адстаўку, першым кіраўніком незалежнай Беларусі стаў Станіслаў Шушкевіч, які да гэтага займаў пасаду намесніка старшыні ВС.

**25 жніўня Беларусь стала незалежнай**

25 жніўня 1991 года Беларусь афіцыйна абвясціла сябе незалежнай дзяржавай. На галасаванні па прыняцці дакумента, які абвяшчае незалежнасць, падтрымалі гэтае рашэнне 253 дэпутаты з 265.

У гэты ж дзень Вярхоўны Савет прыняў пастановы «аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ КПСС на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» і «аб дэпартызацыі органаў дзяржаўнай улады і кіравання Рэспублікі Беларусь».

Сесія ВС таксама прыняла пастанову «аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР». Ва ўласнасць Рэспублікі перайшлі ўсе прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы саюзнага падпарадкавання, размешчаныя на тэрыторыі рэспублікі.

19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет прыняў Закон «Аб назве Беларускай ССР», у адпаведнасці з якім яна стала называцца «Рэспубліка Беларусь», а скарочана — «Беларусь». Дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь былі абвешчаныя герб «Пагоня» і «бел-чырвона-белы сцяг».

**budzma.org**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# «ПАВАРОТ НА УСХОД» ЯК РЫМЕЙК АРДЫНСКІХ ЧАСОЎ

**«Мы выходзім на прастор, а яны сыходзяць з гістарычнай сцэны раз і назаўсёды». Прыхільнікам гэтага геапалітычнага адкрыцця важна разумець, хто тут «мы», а хто «яны».**




Гэта ёсць наш апошні і рашучы бой. Прабачце, наш — гэта чый? Вадзім Ялфімаў, палітолаг, кандыдат гістарычных навук, упэўнены, што гаворку варта весці пра калектыўны Захад. І агрэсіўныя планы гэты пакуль яшчэ суб'ект сусветнай палітыкі мае ў дачыненні да Беларусі, Расіі і Кітая.

З чаго б гэта раптам? Для двоечнікаў у пытаннях геапалітыкі прывяду цытату: «Калектыўны Захад разумее, што Беларусь, Расія і Кітай выходзяць на лідзіруючыя пазіцыі, у той час як ЗША і еўрапейскія дзяржавы адыходзяць на другі план. У гэтых умовах заходнія дзяржавы вырашылі развязаць санкцыйную барацьбу».

Усведамленне гэтага да цяпер ужо былых «партнёраў» прыйшло не адразу. Чаго-чаго, а дурняў у межах калектыўнага Захаду хапае. Артыст размоўнага жанру Міхаіл Задорнаў тройчы меў рацыю. Але нават да дурняў дайшло, што, «як толькі Беларусь і Расія пачалі развіваць сваю інтэграцыю пасля 2020 года і да нас сталі далучацца азіяцкія краіны», далейшае прамаруджванне стала падобным да смерці.

А куды падзецца, калі «мы выходзім на прастор, а яны сыходзяць з гістарычнай сцэны раз і назаўсёды»?

…Каб не расцякацца думкай па дрэве, працытую журналіста Паўла Пранікава: «Пачалося з прыезду каманды італьянцаў з Соф'яй Палеалог (і затым будаўніцтва Маскоўскага Крамля і стварэння артылерыі). З сярэдзіны XVII стагоддзя першыя заводы (порах, металы) у Расіі засноўваюць галандцы. Ну і далей па накатанай.

СССР меў вельмі шчыльныя тэхналагічныя сувязі з Захадам (фактычна ўся передавая савецкая прамысловасць была пабудаваная пры ўдзеле Захаду, у тым ліку выкарыстоўваючы нямецкія рэпарацыі і іх інжынерныя сілы пасля ВАВ)».

На думку журналіста, тое, што сёння горда называюць «паваротам на Усход», ёсць рымейк ардынскіх часоў, «калі ў Русі была мінімальная тэхналагічная сувязь з Захадам».

Нездарма ў крамлёўскай метадычцы, апублікаванай «Медузай», расійскім СМІ рэкамендуецца параўноўваць Уладзіміра Пуціна з Аляксандрам Неўскім. Гэты гістарычны персанаж па выніках шырокамаштабнага апы-тання расіян 28 снежня 2008 года быў абраны «Імем Расіі». І заслужана! Абаронца Паўночна-Заходняй Русі ад лацінян адначасова дарагі расіянам у якасці архітэктара руска-ардынскага альянсу.

**Без вайны якое ж развіццё?**

Спадзяюся, чытачы не пакрыўдзяцца на маю спробу апраўдаць святога князя Аляксандра Неўскага, вызначанага рашэннем Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла ў 2016 годзе на ролю нябеснага апекуна Сухапутных войскаў Расійскай Федэрацыі. Тых самых войскаў, якія з 24 лютага вызваляюць «не чужую нам Украіну» ад нацыстаў.

У чым тут праблема? Праблема ў выкарыстанні сучасных крытэраў пры ацэнцы палітыкаў мінулага, і наогул самой мінуўшчыны ў цэлым. У часы князя (1221–1263) уцаркоўленымі — гэта значыць тымі, хто рэгулярна ўдзельнічае ў набажэнствах і ў царкоўным жыцці і хто імкнецца жыць па-хрысціянску і падтрымліваць сацыяльныя стасункі ў межах сваёй царкоўнай абшчыны, — былі практычна ўсе, у той час як у нашы дні ў Беларусі і Расіі такіх людзей не больш за 3 працэнты.

Натуральна, што патрабаванне лацінян змяніць праваслаўную веру на каталіцкую нашы продкі ўспрынялі як экзістэнцыйную пагрозу. Арда ж на веру не замахвалася. Больш за тое, у праваслаўнай царкве яна бачыла адну з умоваў свайго панавання і таму вызваліла царкву ад сплаты даніны.

Што ж да даніны, то ў тыя часы яе плацілі ўсе і заўсёды. Каму — пытанне другаснае. Дастаткова адзначыць, што пераход у каталіцтва аўтаматычна азначаў сплату папскай дзесяціны.

Аднак тое, што было натуральным у глыбокім Сярэднявеччы, выглядае недарэчным у нашы дні. Зноў звернемся да крамлёўскай метадычкі. Згодна з яе аўтарам, «сёння прадстаўнікі ўсіх народаў Расіі зноў з'ядналіся ў супрацьстаянні з бязбожнікамі дзеля абароны традыцыйных каштоўнасцяў і права сваіх дзяцей жыць у адпаведнасці з імі».

Адсюль вынікае нечаканая, але разам з тым рашучая высновa: "Як і хрышчэнне Русі, вайна ва Украіне закладвае дзяржаўныя асновы краіны — а таксама асновы развіцця Расіі на стагоддзі наперад».

Без вайны якое ж развіццё? Такое прызнанне дарагога вартае. Акабіхтонесумняваўся, аўтары запэўніваюць, што гэта адбываецца дзякуючы «згуртаванню грамадства» вакол войска і «стратэгічнага курсу прэзідэнта»…

**Усе беды ад калектыўнага Захаду**

Такая вось місія! Згуртаванне вакол арміі — адна з абавязковых умоў яе дасягнення. Маглі б згуртавацца вакол Акадэміі навук, але пра што гэта я?

Згуртаванне вакол арміі без наяўнасці ворага — занятак, які можа мець мноства разбуральных наступстваў. Прыгадаем гарбачоўскую перабудову з яе «новым мысленнем». Перакваліфікацыя ЗША з ворага ў партнёра дэмаралізавала войска, што падкінула ладную вязанку галля ў вогнішча, на якім сінім полымем згарэў СССР.

Аўтары дапаможніка пра гэта памятаюць: усе беды — ад калектыўнага Захаду, які ўпэўнены ва ўласнай выключнасці.

…Адназмэтаў«спецаперацыі» — «барацьба з бязбожнікамі». Белым і пухнатым воінам святла, воінам-вызваліцелям аўтары метадычкі супрацьпастаўляюць «гвалтаўнікоў, разбойнікаў і забойцаў», свабодных ад якіх-небудзь маральных абавязкаў.

За намі праўда. А ў чым яна, брат? Кандыдат гістарычных навук (глядзі пачатак артыкула) яе даходліва растлумачыў: «Мы выходзім на прастор, а яны сыходзяць з гістарычнай сцэны раз і назаўсёды».

І запярэчыць тут цяжка. «На прастор, на шырокі прастор». Класік як у ваду глядзеў.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.online**

РАСЕЯ

# ДВА ВЫБОРА: КАПИТУЛЯЦИЯ ИЛИ ОБЪЯВЛЕНИЕ МОБИЛИЗАЦИИ

**У Путина осталось всего два выбора: капитуляция или объявление мобилизации. Телеграм-канал Родина слонов — о начавшейся войне ресурсов, в которой Россия заведомо является слабой стороной. Показательное поздравление Украины с днем независимости ясно говорит, что Лукашенко уже не верит в победу России.**

— Попытка Путина предложить Зеленскому заморозку конфликта через Эрдогана провалилась на прошлой неделе: Зеленский твердо заявил, что переговоры с Россией возможны только в том случае, если российские войска покинут все украинские территории, включая Крым. Т.е. Украина готова обсуждать с Россией только условия капитуляции.

Последним гвоздем в крышку путинской идеи заморозки конфликта стало заявление Турции о том, что передача Крыма Киеву должна быть основой соглашения между странами. Таким образом, единственная страна, готовая выступать посредником между Россией и Украиной, также настаивает на восстановлении территориальной целостности Украины в границах 1991 г.

Надежды на успех газового шантажа также тают: Германия уже твердо заявляет о невозможности восстановления газовых отношений с Россией, т.к. она более не может восприниматься как надежный поставщик энергоресурсов. Европа между тем существенно опережает установленные ею же самой требования по темпам заполнения газовых хранилищ: уровень заполнения хранилищ уже составляет более 77,4%, и продолжает стремительно расти, несмотря на жаркое и засушливое лето, и, вероятно, достигнет 100% к концу октября.

Новый, рекордный по объему, пакет военной помощи США Украине, носящий подчеркнуто среднесрочный характер, говорит о том, что военная поддержка Украины со стороны Америки имеет конечную цель обеспечить Киеву победу над противником. Это является сигналом как для России, так и для Европы.

Путин должен понять, что началась война ресурсов, в которой Россия заведомо является слабой стороной. Запуск Кремлем слухов о том, что он готовится к долгой войне, является разговором в пользу бедных — у России нет ресурсов на долгую войну.

Европа же, в первую очередь Германия, должна понять, что США не прекратят военную поддержку Украины даже если Германии очень захочется получить этой зимой газ из России. Германия сама создала проблему своей зависимости от Газпрома, и сама должна предпринять усилия, чтобы эту проблему решить. При этом Германии не с руки возражать США: Америка сделала в этом году максимально много для того, чтобы обеспечить Европу энергоресурсами, став одним из ее крупнейших поставщиков нефти (в т. ч. за счет стратегических запасов) и сжиженного газа.

Информация о том, что российская армия испытывает дефицит живой силы и ей нужна мобилизация, без которой армия скоро начнет утрачивать военный потенциал, широко гуляет по телеграм-каналам, включая около кремлевские...

После провала попытки переговоров о заморозке военных действий у Путина осталось всего два возможных выбора: мобилизация ради последней попытки победить, или капитуляция. Учитывая, что Путин никогда не отступает, нет сомнений в том, какой он сделает выбор.

Однако пока общество к мобилизации не готовят. Причиной спокойствия, вероятно, является предстоящий единый день голосования.

Несмотря на полный контроль над процессом выборов, Путин их по-прежнему боится, т.к. именно выборы, даже фиктивные, очень часто являются точкой бифуркации в авторитарных режимах, а значит народ перед выборами тревожить нельзя. Однако после них, вероятно, нас ждет изменение риторики и подготовка к решению о мобилизации.

**gazetaby.info**

УКРАЇНА-БЕЛАРУСЬ

# «НАС НЕ АДДАДУЦЬ ПУЦІНУ ЯК РАЗМЕННУЮ МАНЕТУ»

**Экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Мілінкевіч у інтэрв'ю «Филину» тлумачыць, чаму Украіна пераможа ў вайне, і разважае пра пасляваенны лёс Беларусі.**

*— Беларусь прызналі краінай-суагрэсарам. Ужо сёння гучаць размовы пра будучыя рэпарацыі, пра неабходнасць прынесці прабачэнні ўкраінцам, незалежна ад таго, ці ўсе беларусы падтрымліваюць уварванне ва Украіну.*

*Пры гэтым, як падаецца, мала гаворыцца пра пасляваенную будучыню нашай краіны. На вашу думку, якімі могуць быць сцэнары для Беларусі як дзяржавы? Натуральна, варыянтаў тут можа быць мноства. У залежнасці і ад таго, хто пераможа ў гэтай вайне.*

— Складана рабіць прагнозы ў нашай сёняшняй палітыцы. І тым больш адносна вайны Расіі з Украінай, ад якой сёння залежыць лёс Беларусі. Калі б перамагла Масква, у нас не было б шанца на самастойную дзяржаву.

Але я ведаю, што ўкраінцы ўжо ні ў якім выпадку не вернуцца ў «русский мир». І ніколі не захочуць у Савецкі Саюз, пра аднаўленне якога марыць Пуцін. Перш за ўсё, дзякуючы сваёй украінскай ідэнтычнасці, якая так моцна адрадзілася за апошнія дзесяцігоддзі.

Па-першае. Украіна зрабіла свой геапалітычны выбар, яна цвёрда ведае, куды ідзе і што будуе. Праводзіла крок за крокам дэмакратычныя рэформы, не ўсё яшчэ атрымалася, але сярод несумненных поспехаў — рэальнае мясцовае самакіраванне і стварэнне сучаснай арміі.

І ўсё ж сапраўднай гарантыяй невяртання ў мінулае ўкраінцам служыць адроджаная глыбокая нацыянальная самасвядомасць. На большасці тэрыторыі яны адрадзілі шырокае ўжыванне роднай мовы, у школах і ўніверсітэтах украінцы ўжо шмат гадоў вучаць не гісторыю расейскай імперыі, а сваю ўласную.

Нават тыя, што размаўляюць па-руску, ў большасці сваёй ужо разумеюць — мова з'яўляецца фундаментам ідэнтычнасці. І вось такую Украіну з моцным нацыянальным духам і годнасцю проста немагчыма паставіць на калені.

Можна забіваць украінцаў, але перамагчы іх ужо ніхто не зможа. Крэмль шалее і аніяк не ўцяміць, адкуль такі народны супраціў прыходу іхняга «светлого русского мира».

Таму не выпадкова, што Пуцін так пасадысцку пакараў найперш рускамоўныя ўкраінскія гарады. Бо для яго той жа Харкаў, ці Марыупаль — гэта гарады-здраднікі. Ён так разлічваў, верыў, што уж тут сустрэнуць «старэйшага брата» з праславутымі кветкамі. Аказалася — не.

Гэта і нам вялікая навука. Калі хочам адстаяць незалежнасць Беларусі, то гістарычную і культурніцкую самасвядомасць нам штодзённа трэба стала фармаваць і узмацняць. І ўжо зараз, нягледзячы на ўнутраную антыбеларускую палітыку, бо імперскасць Расіі перажыве Пуціна і будзе нам пагражаць яшчэ доўга.

Па-другое. Украінцы не прызнаюць маскоўскую анэксію іх тэрыторый, якая адбылася ў 2014-м. Яны абсалютна слушна адмаўляюцца пайсці на мірныя перамовы, нават калі вялікія дзяржавы старой Еўропы спрабуюць навязаць іх Кіеву.

І робяць гэта асалютна слушна, бо мірнае жыццё прыдзе да нашых паўднёвых суседзяў і да нас толькі тады, калі Расія цалкам прайграе вайну, вызваліць захопленыя землі і перастане быць імперыяй.

І якія мірныя дамовы могуць быць з цынічным агрэсарам, які бясконца хлусіць?

Ці будзе вайна доўгай, зараз залежыць ад хуткасці і колькасці паступлення заходняй сучаснай зброі. З аднаго боку, Пуцін не толькі паспяхова ўкраінізіраваў Украіну, але і амаль абсалютна кансалідаваў цывілізаваны свет супраць сябе.

З іншага, неадэкватнасць сёняшняга расійскага дыктатара і яго перыядычныя пагрозы ўжыць самую страшную зброю прымушаюць Захад асцярожна перадаваць суперсучасную баявую тэхніку Кіеву, бо байца, што вайна выйдзе за межы Украіны і стане ядзернай.

Мы не ведаем, як будзе выглядаць параза «русского мира», ці ўсё скончыцца распадам Расіі, ці яе трансфармацыяй. Гэта невядома.

Трагічна, што лёс наш пакуль што ў меншай ступені залежыць ад нас саміх, дзякуючы ўсім гэтым Саюзным дзяржавам, АДКБ, сталінізацыі, мілітарызацыі, постканіяльным комплексам «малодшага брата» ды іншага, ад чаго Беларусь непазбежна пазбавіцца, як толькі стане вольнай.

Сапраўды, пра гэта ўсе гавораць — украінцы змагаюцца «за нашу і вашу свабоду». За сваю і за нашу незалежнасць, але і за свабоду Захаду таксама. І ён ужо робіцца лепшым, чым быў апошнім часам, бо ўсё больш вяртаецца да каштоўнасцяў, на якіх калісьці нарадзіўся. Дзякуючы Украіне.

***— Зразумела, што прагнозы ў такой сітуацыі рабіць надзвычай складана. І тым не менш, улічваючы тое, што і дагэтуль на Захадзе па-ранейшаму гучаць думкі пра здачу Украінай часткі сваёй тэрыторыі ў абмен на спыненне вайны, ці ёсць нават гіпатэтычная магчымасць таго, што Беларусь аддадуць Пуціну ў якасці ваеннага трафея?***

— На шчасце, думаю, што не. …

Але тое, што адбылося на Плошчы ў сакавіку 2006-га, калі больш за трыццаць тысяч выйшлі з пратэстам, нягледзячы на рэальныя пагрозы сілавікоў прызнаць гэты выхад тэрарызмам, за які ў нас можа быць і смяротнае пакаранне.

Асабліва ўразіла моладзь, пратэстны наметавы гарадок з бел-чырвона-белымі сцягамі, са сцягамі Еўразвяза. Тыдзень на «Еўраньюс» галоўнай навіной была вольная Беларусь. Пасля той Плошчы, куды больш сціплай, чым два гады таму, ніхто больш у еўрапейскіх сталіцах такіх пытанняў не задаваў.

Наадварот, казалі: «Мы бачым, што вы, асабліва маладое пакаленне, хочаце жыць па-еўрапейску, у свабодзе, у незалежнасці. Мы з вамі».

Я ведаю, што пасля 2020-га ўсе разумеюць, што цяперашняя ўлада не прадстаўляе большасць беларусаў, якая цвёрда жадае годнага жыцця і хоча сама вызначаць свой лёс.

І многіх уразіў мірны характар пратэстаў. Ён моцна паспрыяў нашаму аўтарытэту. Хоць некаторыя кажуць, што трэба было штурмаваць дзяржаўныя будынкі і браць уладу.

Не падзяляю такія думкі, хаця б з той прычыны, што радыкальныя сцэнары ў нашай сітуацыі скончыліся б вялікай крывёй і ўвядзеннем расійскіх войскаў «для аказання братэрскай дапамогі ва ўмовах заходняй агрэсіі».

Шматтысячныя маніфестацыі 2020 года бароняць нас і сёння — цывілізаваны свет не будзе глядзець на Беларусь як недзяржаву, а на беларусаў як неданарод, як то дэкларуе Пуцін. Нас не аддадуць як разменную манету, бо цяпер успрымаюць, як прыналежную да еўрапейскага свету краіну.

Але нават не толькі гэта адыгрывае ролю, гэта з большага такі абгрунтаваны сантымент. Вельмі важна і тое, што для бяспекі Еўропы прынцыпова, каб Пуцін нічога не выйграў у гэтай вайне.

Каб ён у гэтай вайне ўсё прайграў. Бо калі крамлёўскі дыктатар хоць бы часткова рэалізуе свае задумы і мэты, і далучыць Беларусь, ён на гэтым не спыніцца. Мы з'яўляемся сведкамі агоніі імперыі, якая жыве, пакуль пашыраецца, чаго нельга дапусціць.

На Захадзе сёння ўсе выдатна разумеюць. І я лічу гэта вялікім дасягненнем і перамогай 2020 года. Часта са смуткам кажуць: «У 2020-м мы так прыгожа ўсё зрабілі, увесь свет быў у захапленні ад нас. І весь бачыце, што зрабілася. А тут яшчэ і вайна, ды яшчэ з нашай тэрыторыі».

Для мяне тое, што адбылося ў 2020-м, гэта чарговы этап нашай рэвалюцыі. Іх было некалькі, гэта быў чарговы. І для нашага духу, для нашай веры вельмі важна разумець, што рэвалюцыя — гэта не абавязкова палітычны пераварот.

Змены ўлады не адбылося, бо яна ўжыла гвалт і зброю. Але не вырашыла ніводнай праблемы ў краіне, не запрапанавала ніякай перспектывы грамадству і паскорыла свой крах.

Пры гэтым, дзякуючы тым падзеям, адбыліся неверагодныя змены ў свядомасці беларусаў. Нарадзілася новая грамадзянская супольнасць і палітычная нацыя. Паўстае іншая, лепшая, мацнейшая, сучасная краіна…

*(скарочана)*

**Сяргей Васілеўскі**
**ФИЛИН**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stankevich62@gmail.com тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.08.2022 у 15.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.